# ПРАВАСЛАЎНАЯ ДУМКА

НЕЗАЛЕЖНЫ ЧАСОПІС ПРАВАСЛАЎНАЙ МОЛАДЗІ

МЕНСК 1989 №3

## НАВІНЫ ЕПАРХІІ

ЗЬ БЕЛАРУСКІХ ЕПАРХІЙ УТВОРАНЫ БЕЛАРУСКІ ЭКЗАРХАТ РУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ.

ЯГО УЗНАЧАЛЬВАЕ ФІЛАРЭТ, МІТРАПАЛІТ МЕНСКІ І ГРОДЗЕНСКІ, ПАТРЫЯРШЫ ЭКЗАРХ БЕЛАРУСІ.

У Жыровічах пачала дзейнічаць Менская Духоўная семінарыя. З 84-х абітурыентаў выбрана 40, якія і склалі першыя "А" і "Б" класы. Першы "А" клас беларускамоўны, тут выкладаюцца па-беларуску, акрамя роднай мовы, літаратура і біблейская гісторыя. Амаль што ўсе вучні добра адказваюць па-беларуску. Як нам стала вядома, некаторыя дзеячы беларускай культуры ўжо выказалі сваё жаданьне выкладаць нейкія прадметы аба прачытаць курсы па асобных дысцыплінах. Аб тым, што тут, у праваслаўнай семінарыі, шануюць роднае слова, сьведчыць вялікая колькасьць беларускіх выданьняў, якія выпісаны на семінарыю і закупаюцца для бібліятэкі. Мы запрашаем читачоў "Праваслаўнай Думкі" дапамагчы семінарыі ў набыцьці беларускіх кніг. Адрас: , Гродзенская вобласьць, Слонімскі раён, г/п Жыровічы, вул. Савецкая. Духоўная семінарыя. Бібліятэка. На кожнай кнізе раім надпісаць -- ад каго.

Беларуская мова і літаратура выкладаюцца таксама і ў І-м "Б" ніхто зь іх ня супраць, ніхто ня кажа: навошта мне гэта патрэбна. Знайшоўся і добры настаўнік, былы выкладчык Менскага педінстытута замежных моў, цяпер пенсіянер, Сяргей Рыгоравіч Мацыральнік.

Адзін з найпапулярнейшых выкладчыкаў семінарыі -- а. Сергій Гардун. Родная мова айца Сергія настолькі жывая і мілагучная, што сяму-таму ня грэх у яго павучыцца. Але галоўнае, варта павучыцца ягонай пераканананасьці:

-- Я заўсёды лічыў і лічу, што кожны чалавек, кожны народ павінен размаўляць на сваёй роднай мове. І калі хтосьці ставіць пытаньне наступным чынам: навошта ў Беларусі выкладаць па-беларуску? -- я такіх людзей не разумею. Трэба, канешне, згадзіцца з рэальнасьцю, наша мова ў заняпадзе і занядбаньні. Дзякуй Богу, што пачаўся працэс яе адраджэньня, абавязак царквы -- ў гэты працэс уключыцца. Вось я са свайго боку і раблю тое, што магу і павінен рабіць.

## ІААН КРАНШТАЦКІ

"Глухой восеньскаю ноччу на 19 кастрычніка /І лістапада па Новым стылі/ 1829 року, на далёкай поўначы, каля белагоў ракі Пінегі, у сяле Сурэ Архангельскай губэрні Пінежскага ўезду, за 500 вёрстаў ад Белага мора, у беднай сям'і прычэтніка Ільлі Сяргеева, пры самых небрачых, сумных абставінах нарадзіўся хлопчык -- кволы

і, на першы погляд, хваравіты да таго, што бацькі нават не спадзяваліся, што ён пражыве некалькі дзён. Яны вырашылі ахрысьціць яго ў тую-ж ноч, прычым даўшы яму імя сьвятога Іаана Рыльскага..." Але хлопчык адужаў. У дзевяць гадоў яго аддалі на вучобу ў прыходскае Архангельскае вучылішча. Скончыў Духоўную сэмінарыю, а ў 1855 року -- Пецярбургскую Духоўную акадэмію, атрымаўшы ступень кандыдата багасловія. Служыў у Кранштацкім Андрэеўскім саборы.

Вось асноўныя вехі жыцьця чалавека, да якога яшчэ пры жыцьці ехалі людзі з усяе імпэрыі за парадамі, за багаславеньнем. У спадчыну нашчадкам пакінуў дзёньнікавыя запісы і памяць ... Замежная Руская Праваслаўная Царква далучыла Іаана Кранштацкага да ліку сьвятых; напісаныя іконы яго.

Сэрцы усіх праваслаўных у дні 160-гадовага юбілею абліваюцца сьлязьмі і спадзяваньнем маліцца да Сьвятога Іаана Кранштацкага у нашых храмах. Помнячы царскі наказ да вечнага маліто́ўнага памінаньня а. Іаана, на І лістапада /па Новым стылі/, тысячы і тысячы лямпадак засьвяціліся перад ягонымі абразамі і ў далёкай Амэрыцы, у Пецярбурзе, у Менску.

Наш часопіс пачынае друкаваць сэрыю нарысаў пра жыцьцё а. Іаана, а таксама ягоныя дзёньнікавыя запісы.

"... ці ёсьць і цяпер зьнявага ды ганеньні за праўду, за веру Христовую? Ёсьць і будуць да скону сьвету, таму што не прыйшло яшчэ царства Божае ува ўсёй сіле для многіх, а для большай часткі яшчэ зусім не прыйшло. Яшчэ шмат няшчырасьці ды няпраўды ў саміх хрысьціянскіх абшчын с; яшчэ ня зьвязаны сатана і вольна гуляе па зямлі; а цяпер дык увогуле, здаецца, ён найбольш лютуе на тых, хто трымаецца веры праўдзівай. Толькі цяпер гоніць ён не на катаваньні, не на сьмяротныя пакараньні, а сее між людзей няверу, абкручвае г.зв. прагрэсам ..."

"Дабрачынных людзей цяпер абзываюць "ханжамі", "руціне́рамі" -- г.зн., людзьмі адсталымі, з вузкімі паглядамі; веру хрысьціянскую называюць "вераю чэрні"; хрысьціянскае шкадаваньне -- слабадушшам ды нэрвоваю раздражнёнасьцю; міласэрднасьць -- неразумнаю растратаю сілаў ды сродкаў; малітву на людзях -- крывадушшам; усладу ды радасьць маліто́ўную -- іцыятызмам, бадай што вар'яцтвам. Наадварот, шырокую нястрыманасьць плоці, патураньне ўсім яе бясконцым пажадлівасьцям -- сучасным прагрэсам".

# ПРАВАСЛАЎНЫЯ АЎТАРЫ

ВЯЛІКАМУ П Е Ч А Л Ь Н І К У ЗЯМЛІ РУСКАЙ АЛЯКСАНДРУ ІСАЕВІЧУ САЛЖЭНІЦЫНУ ІІ СЬНЕЖНЯ 1989 ГОДУ СПОЎНІЦЦА 71 ГОД.

РЭДАКЦЫЯ "ПРАВАСЛАЎНАЕ ДУМКІ", РАЗАМ СА СВАІМІ ЧЫТАЧАМІ, ШЧЫРА ВІНШУЕ СЛАВУТАГА ВЫГНАНЬНІКА І МАЛІТОЎНА ЖАДАЕ ЯМУ МНОГАЯ ЛЕТА!

## М О Л И Т В А

Как легко мне жить с Тобой, Господи!
Как легко мне верить в Тебя!
Когда расступается в недоумении
или сникает ум мой,
когда умнейшие люди не видят дальше
сегодняшнего вечера и не знают,
что надо делать завтра --
Ты снисылаешь мне ясную уверенность,
что Ты есть и что Ты позаботишься,
чтобы не все пути добра были закрыты.

На хребте славы земной я с удивлением
оглядываюсь на тот путь
через безнадежность —
сюда, откуда и я смог послать
Человечеству отблеск лучей Твоих.

И сколько надо будет, чтоб я их ещё
отразил — Ты дашь мне.
А сколько не успею —
значит, ты определил это другим.

А.И.Солженицын.

ЗЬ ГІСТОРЫІ АБ ПАКАРАНЬНІ СЬМЕРЦЮ.

"Ужо у летапісным расказе пра сьв. Уладзіміра апавядаецца пра тое, як сьв. Уладзімір, прыняўшы хрышчэньне, баяўся увесьці закон аб пакараньні сьмерцю грабежнікаў. "Баюся грэху" — казаў ён грэчаскаму духавенству, якое настойвала на ўвядзеньні у нас візантыйскіх законаў.

А пазьней, у XII ст., другі рускі князь, Уладзімір Манамах, у сваім павучаньні дзецям так і піша: "Не забівайце ні невінаватага, ні вінаватага, нават калі віна яго у сьмерці". А Уладзімір Манамах быў пры гэтым адважны воін і абаронца рускай зямлі, загроза полаўцам. У XVIII ст., пры Лізавеце Пятроўне /1741-1762/ пакараньне сьмерцю у справах пра агульныя злачынствы /мы ня кажам пра ваенныя законы і злачынствы супраць дзяржаўнага ладу/ было адменена — Расія з гэтага часу ня ведала кары сьмерцю за агульна-крымінальныя злачынствы.

Запаветы старадаўняй рускай культуры перайшлі і у новую, і у рускай літаратуры і у рускай думцы XIX ст. мы сустракаем такіх праканаых праціўнікаў сьмяротнае кары, як Талстой, Дастаеўскі і Уладзімір Салаўёў.

Калі здарылося царазабойства у 1881 годзе, калі быў забіты бомбай цар Вызвольнік Аляксандр II, дык Салаўёў і Талстой, кожны пасвойму, але кожны з аднолькавай цьвёрдасьцю настойваў на неабходнасьці памілаваньня падсудных.

І вось Салаўёў зьвяртаецца да новага імператара Аляксандра III з просьбаю памілаваць забойцу. Калі яго цараваньне пачнецца з памілаваньня, дык гэта ня зможа не паспрыяць умацаваньню сілы манархіі, бо тады рускі цар справаю давядзе, што ён цар хрысьціянскі.

Зьбіраючыся у дарогу у іншы сьвет, наш вялікі палкаводзец Суворау знаходзіў у сваім пражытым жыцьці мала добрага, мала сапраўды вялікіх дзеяў. У прыватнасьці, свае ваенныя подзьвігі ён ацэньваў нізка, бо зьдзяўсьняў іх патураны славалюбствам і чалавечай пыхай. Але сярод нямногіх спраў, якія ён усё-ж мог паставіць сабе у заслугу, было тое, што ён ніводнага разу ня падпісаў сьмяротнага прысуду.

Калі забойца Вялікага Князя Сяргея Аляксандравіча Каляеў быў засуджаны да пакараньня сьмерцю /гэта было дзяржаўнае злачынства, а ня крымінальнае забойства/, дык імператар Мікалай II адразу-ж згадзіўся памілаваць яго, калі ён напіша прашэньне на памілаваньне. І вось, і пракуроры, і судзьзі, і сама жонка забітага Вялікага князя, Вялікая княгіня Лізавета Фёдараўна, асабіста езьдзілі у

камеру да Калява, упрошвалі яго падпісаць гэтае прашэньне. Да такой ступені ўсім хацелася ўратаваць яго ад пакараньня сьмерцю.

Такія ідэалы рускай культуры ў пытаньні пра сьмяротную кару. Гэта ідэал "не забі". Нельга забіваць чалавека — бо ён чалавек. Гэты ідэал, як мы бачылі, чыста духоўнага паходжаньня, заснаваны на веры ў чалавека, які ня можа быць бяз веры ў Бога".

М.П.Гаўрылаў,
Духоўныя асновы рускай культуры.
Выд. "Жизнь с Богом", Брусель, 1954.

# СА СПАДЧЫНЫ

Цыцэрон — 2 тыс. год да н.э.: Няма ніводнага народу, да такой ступені грубага і дзікага, каб ня было ў ім веры ў Бога, нават калі-б ён і ня ведаў Яго Сутнасьці.

прат. Ф.Галубінскі. М.1868 г. "Лекцыі па абстрактным багаслоўі": "Жыві так, як-бы жыў перад вачыма Божымі, і ты ня спанявершся, што ёсьць Бог".

сьв. Васілій Вялікі. "Правілы богападобнага жыцьця", СПБ. 1900, стар. 81: "Хрысьціянін не павінен прынаджвацца душою да славы людское і прызвычайвацца да незаслужанай учты, а павінен папраўляць тых, хто робіць яму такі гонар альбо думае пра яго болей, чым трэба".

бл. Аўгусьцін. "Бог прызнаў за лепшае ператвараць кепскае ў добрае, чым наогул не дапускаць кепскага. Бо Бог, як што Ён ёсьць Найдабрэйшы, ні ў якім разе не дапусьціў бы кепскага ў дзеях Сваіх, калі-б Ён ня быў такі ўсемагутны й добры, каб ня мог зь кепскага вывесьці добрае і харошае".

Максім Горкі "О русской действительности".

Конечно, мы совершаем опыт социальной революции, — занятие, весьма утешающее маниаков этой прекрасной идеи и очень полезное для жуликов. Как известно, один из наиболее громких и горячо принятых к сердцу лозунгов нашей самобытной революции явился лозунг: "Грабь награбленное!"

Грабят — изумительно, артистически, нет сомнения, что об этом процессе самоограбления Руси история будет рассказывать с величайшим пафосом.

Грабят и продают церкви, военные музеи, продают пушки и винтовки, разворовывают интендантские запасы; грабят дворцы бывших великих князей, расхищается всё, что можно расхитить, продаётся всё, что можно продать.

"Вожди народа" не скрывают своего намерения зажечь из сырых русских поленьев костёр, огонь которого осветил бы западный мир, где огни социального творчества горят более ярко и разумно, чем у нас на Руси.

Костёр зажгли, он горит плохо, воняет Русью, грязьненькой, пьяной и жестокой. И вот эту несчастную Русь тащат и толкают на Голгофу, чтобы распять её ради спасения мира. Разве это не "мессианство" во сто лошадиных сил?

А западный мир суров и недоверчив, он совершенно лишён сантиментализма. В этом мире дело оценки человека стоит очень просто: вы любите, вы умеете работать? Если так — вы человек необходимый миру, вы именно тот человек, силою которого творится всё ценное и прекрасное. Вы не любите, не умеете работать? Тогда, при всех иных ваших качествах, как бы они ни были превосходны, вы — лишний человек в мастерской мира. Вот и всё.

# ПАДУМАЙЦЕ

Сьвяты мучанік Іасафат Кунцэвіч /1580-1623/.

Уніяцкі царкоўны палітычны дзеяч. Выхаванец Віленскіх езуітаў. Перайшоў з праваслаўя ва унію. Ігумен Быценскага, Жыровіцкага, Віленска-Троіцкага манастыроў. З 1618 году — уніяцкі арцыбіскуп Полацкі. За дэспатызм празваны у народзе "душахватам". У 1618 годзе з атрадам рушыў на Магілёў, каб прымусам і карамі увесьці праваслаўных жыхароў ва уніяцтва.

Гараджане сустрэлі яго са зброяй у руках і адстаялі горад і веру. Па даносе Кунцэвіча каралю Зыгмунту III была учынена крывавая расправа караля з магілеўчанамі. Узброеным супраціўленьнем баранілася ад Кунцэвіча і Орша. Даведаўшыся пра чарговы "місіянерскі" паход на Віцебск у 1623 годзе, гараджане паўсталі і забілі душахвата, заплаціўшы за гэта дарагую цану жыцьцямі праваслаўных.

Зьверствы Кунцэвіча зьдзіўлялі і абуралі нават высокіх каталіцкіх дзеячоў. Вось што пісаў Літоўскі канцлер Леў Сапега уніяцкаму мітрапаліту Іосіфу Руцкаму: "Не толькі я, але і іншыя асуджаюць тое, што айцец уладыка Полацкі надта жорстка пачаў учыняць і вельмі абрыдзеў і зьмярзоцеў народу як у Полацку, так і усюды". /"Холмская Русь", стар. 81./

Заходняя Рымска-Каталіцкая Царква абвясьціла ката праваслаўных беларусаў Сьвятым мучанікам. З малітвы: "Сьвяты Іасафате. Ты праліваў сваю кроў як пакутнік за Хрыстову Царкву. Ты заўжды хацеў і пастаяннымі настойлівымі малітвамі благаў Усемагутнага Бога ласкі з'яднаньню усходніх народаў са Сьвятым Апостальскім Прастолам..."

12 лістапада 1989 году у Касьцёле в. Баруны Маладзечанскага раёну было зладжана Набажэнства з нагоды сьвяткаваньня дня Сьвятога мучаніка Іасафата. На Набажэнстве былі госьці з Польшчы і некалькі аўтобусаў зь мінскімі гасьцямі. Ушанаваньне беларускага ката і душахвата было зладжана зь вялікім размахам. Набажэнства справіў паводле уніяцкага абраду каталіцкі сьвятар а. Ян Матусевіч.

В.Каляда.

Ад рэдакцыі: нагадваем Вам, што акрамя Льва Сапегі, Уладзімір Караткевіч у п'есе "Званы Віцебска" даволі аднназначна паказаў Кунцэвіча як ката беларускага народу. Як нам стала вядома, у Касьцёле у Барунах былі і высокія дзеячы Народнага Фронту, арганізацыі, якую "Праваслаўная Думка" паважае. Калі-б тое было звычайным каталіцкім Набажэнствам — іншая справа, але, калі палітычная акцыя — мы выказваем сваю нязгоду.

# НАС ІНФАРМУЮЦЬ

\+ У Гародні людзям вярнулі Каложскую царкву, адну са старажытнейшых, якія захаваліся на Беларусі.

\+ Змаганьне за Петрапаўлаўскі сабор у Гомелі скончылася перамогай вернікаў.

\+ Назначаны на Беларусь Каталіцкі біскуп свае першую пропаведзь казаў на чатырох мовах: польскай, рускай, беларускай, літоўскай.

\+ Рэгент хору Праваслаўнай царквы на Ваганькавых могілках у Маскве вядомы яшчэ і як кампазітар. Пяцідзесяты псалом, выкананы на музыку у стылі "авангард", уразіў публіку Парыжа. Сам кампазітар лічыць, што падобнае выкананьне можа гучаць толькі у канцэртах.

+ У **Данскім** манастыры у Маскве урачыста служылі малебен па Сталыпіну. Нагадваем, што галоуным пунктам ягонай праграмы было існаваньне фермерскай гаспадаркі, таго класу "кулакоу", які вынішчылі пазьней. Няма́ла сіл паклау ён для увядзеньня у Расіі абавязковай сярэдняй адукацыі.

+ Нам паведамілі, што група людзей у Менску арганізуе канцэрт, увесь прыбытак ад якога павінен пайсьці у фонд аднаўленьня Храма Хрыста Спасіцеля у Маскве. Рэдакцыя не падзяляе думку Уладыкі Піціryма аб немагчымасьці узнаўленьня Храму на яго старым мейсцы і падтрымлівае збор сродкау.

+ У Менску прайшлі Дні Духоунай музыкі. Бралі удзел хары з Масквы, Царыцына, Прыбалтыкі, Менску. Нажаль мы не пачулі у выкананьні менскіх хароу беларускіх царкоуных творау.

+ Руская Праваслаўная Царква за мяжой /з цэнтрам у Джорданвільлі, ЗША/ пачала выдаваць новы часопіс **"Русский Паломник"**

+ У Екацярынбурзе, на вуліцы Р.Люксембург, адбыуся малебен па бязьвінна убіенным Мікалаі II і яго сям'і, а таксама лейб-медыку Боткіну. Кіравау расстрэлам у 1918 годзе чырвонаармейскі камісар Юрлоускі /былы дробны адуканец з Адэсы/.

+ Менск наведау Г.Рапэцкі, вядомы рэлігійны беларускі дзеяч з Канады. Ен прадстауляе друк хрысьціян-эвангелістау. Г.Рапэцкі паабяцау, што праз год будзе выдадзена "Дзіцячая Біблія" па-беларуску.

+ У Менску Дом Фізкультурніка /былы Езуіцкі манастыр/ вярнулі каталікам. Яе рэстаурацыя патрабуе вялікіх грошау. Абмяркоуваецца варыянт пабудовы касьцёлу на новым мейсцы.

+ У Таліне адбыус хрысьціянска-дэмакратычны кангрэс. На ім былі прадстаулены хрысьціянскія партыі скандынаускіх краін, а таксама хрысьціянска-дэмакратычныя рухі з розных рэспублік і гарадоу Саюзу. Беларусау прадстаулялі а. Аляксій Шынкевіч /праваслауны сьвятар, г. Менск/, Алег Бембель /паэт, г. Менск/, Валеры Чыжык /старшыня Беларускага таварыства у Эстоніі, г. Талін/.

+ Уладыка Філарэт, Мітрапаліт Менскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх Беларусі, вызвалены ад абавязкау Старшыні зьнешнецаркоуных зносін Маскоускага Патрыярхату -- па уласнай просьбе.

+ У Магілёве рыхтуецца да асьвячэньня яшчэ адзін праваслауны сабор.

+ 6 сьнежня адбудзецца асьвячэньне сабору Аляксандра Неускага у Мсьціславулі.

Прапануем асноуныя палажэньні праграмы аднаго з удзельнікау кангрэсу ([illegible]):

# АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ
# ХРЫСЬЦІЯНСКА-ДЭМАКРАТЫЧНАГА САЮЗУ РАСІІ

1. Хрысьціянска-дэмакратычны Саюз Расіі /ХДС Расіі/ — палітычная арганізацыя, якая абапіраецца ў сваёй дзейнасьці на сьветагляды і маральна-этычны падмурак, закладзены ў Эвангельлі Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Начале палітыкі ХДС Расіі стаіць чалавек. Мы зьвяртаемся да годнасьці чала века, яго свабоды і суверэнітэту асобы як Вобразу і Падабенству Божаму.

2. ХДС Расіі выступае за асноўныя вартасьці хрысьціянскай культуры: любоў, свабоду, міласэрднасьць і саборнасьць.

3. ХДС Расіі ставіць сваёй мэтай духоўнае адраджэньне Расіі, выяўленьне інтарэсаў хрысьціян незалежна ад іх канфесіі, абарону іх ладу жыцьця і грамадзянскіх правоў, пабудову прававой дэмакратычнай дзяржавы, выходзячы з прынцыпаў хрысьціянскай дэмакратыі, што уключае ў сябе:

- дэідэалагізацыю дзяржавы, роўнапраўе усіх ідэялогій, акрамя тых, што завуць да гвалту, рэлігійнай альбо нацыянальнай варожасьці альбо апраўдваюць іх,
- парламенцкую дэмакратыю, шматпартыйную сістэму, падзел заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады, свабодныя выбары,
- прыярытэт правоў асобы перад інтарэсамі дзяржавы як асноўны прынцып прававой сістэмы,
- безумоўнае забесьпячэньне грамадзянскіх правоў і свабод: слова, друку, арганізацый, сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацый, паломніцтва, эміграцыі, выбару месца жыхарства, руху людзей і ідэй,
- забесьпячэньне права нацый на самавызначэньне, аж да аддзяленьня, і утварэньне вольнай парламенцкай Расіі,
- свабоду веравызнаньняў, місіянерства, рэлігійнай адукацыі і выхаваньня, доступу і валоданьня вернікамі сродкамі масавай інфармацыі,
- адпаведна Боскаму прынцыпу шматаблічча сьвету, стварэньне шматукладнай рыначнай эканомікі, якая грунтуецца на розных відах і формах уласнасьці /прыватная, кааператыўная, калектыўная, дзяржаўная/ пры іх роўнапраўі,
- прывядзеньне сацыяльнага ўзроўню жыцьця грамадства ў адпаведнасьць з магчымасьцю захоўваць грамадзянскую годнасьць кожнага чалавека,
- адмова ад ваеннай і палітычнай экспансіі і гвалтоўнай ідэалагізацыі як асноватворны прынцып замежнай палітыкі.

4. ХДС адпаведна хрысьціянскім адносінам да Божага тварэньня выступае супраць неразумнай прамысловай эксплуатацыі прыроды, змагаецца за пераадоленьне крызісу, за усталяваньне гарманічных адносін паміж прыродай і чалавекам.

5. ХДС Расіі безумоўна адмаўляе тэрарыстычныя і любыя іншыя гвалтоўныя метады палітычнай барацьбы як несумяшчальныя з ідэаламі хрысьціянства, свабоды і дэмакратыі.

6. ХДС Расіі выступае за канструктыўнае супрацоўніцтва з усімі хрысьціянскімі і дэмакратычнымі сіламі як унутры краіны, так і за мяжой, карыстаючы ў сваёй дзейнасьці вопыт сусьветнага хрысьціянска-дэмакратычнага руху, увасоблены Інтэрнацыяналам Хрысьціянскай Дэмакратыі.

Гэтыя прынцыпы прынятыя на Устаноўчай канферэнцыі ХДС Расіі 5 жніўня 1989 году.

кантактныя тэлефоны:
283 01 20 Аляксандр Агароднікаў /Масква/ - старшыня ХДС Расіі;
278 56 02 Віталь Савіцкі /Ленінград/ - намесьнік ст. па ідэалогіі

# СЭНСАЦЫЯ Ў НУМАР

"В прошедшем году, в связи с празднованием национального шотландского дня был избран почётным членом шотландского клана Мак-Леннан Генеральный секретарь ЦК КПСС Михаил Сергеевич Горбачёв с правом носить официальную форму этого клана. Глава клана Рональд Мак-Леннан объявил, что бесспорное историческое свидетельство подтвердило существующую связь между членами клана и М.С.Горбачёвым: Около 1720 года русский князь Симеон, из рода Горбачёвых, стал крёстным отцом тройни капитана Мордоха Мак-Леннана. Князь Симеон находился в то время в царской делегации, посетившей Англию."

"ДРУЖБА", май 1989, стар. 4.
Журнал Русского общественного клуба в Сиднее, Австралия.

# ГОЛАС РЭДАКТАРА

Перачытаўшы гэты нумар, прадбачу крытыку як справа, так і зьлева. Людзі, якія падрыхтавалі матэрыялы ў нумар, стаяць на розных пазіцыях, па-рознаму думаюць; але яднае іх вера ў наша ўратаваньне праз Хрыста, у адраджэньне роднай Беларусі!

Не зьдзіўляйся, шаноўны чытач, калі ў папярэдніх нумарах ты бачыў "Сладар", у гэтым -- "Гасподзь". На Украіне рэлігійную тэрміналогію распрацавалі украінскія уніяты. На Беларусі -- ніхто. Ніводны пераклад Новага Запавету, з тых, што дасюль зроблены, ня можа выкарыстоўвацца ў Набажэнстве. Не бласлаўляў-бы тады Папа Рымскі ксяндза Чарняўскага, а Філарэт, Мітрапаліт Менскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх Беларусі, перакладчыка В.Сёмуху зробіць новы пераклад Новага Запавету на беларускую мову.

І усё-ж-такі: анёл ці ангел, катэдра ці кафедра? Мы лічым, што і анёл, і ангел -- словы беларускія, і нікому не дадзім, ні палякам, ні рускім, забраць іх у нас. Праваслаўныя беларусы ужывалі слова "ангел", беларусы-каталікі -- "анёл". І так далей.

Супрацоўнікі рэдакцыі моляцца, каб Гасподзь даў табе, дарагі чытач, духоўнай чысьціні, вызваленьня ад клопатаў сёнешняга тлумнага жыцьця, умацаваньня веры.

Праваслаўныя Беларусі, ратуйце Радзіму!
Дапамажы Вам Гасподзь!

Рэдактар  С т р а ц і л а т .

Мастак  Я к а ў .

Часопіс "Праваслаўная Думка" не з'яўляецца органам афіцыйных царкоўных ўладаў і адлюстроўвае думку незалежнае рэдакцыі.

Матэрыялы друкуюцца старой беларускай арфаграфіяй.

"Праваслаўная Думка" распаўсюджваецца ў Беларусі, Расіі, Украіне, Балтыйскіх дзяржавах, Польшчы, Англіі, Амерыцы, Канадзе.

Бясплатна. Нумар выдадзены коштам рэдактара.

Наклад 10 000 асобнікаў.

Ахвяруйце грошы ў фонд выданьня.